Гродна
№20 (455),
6 лістапада 2016

# Слова Жыцця

www.slowo.grodnensis.by

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# Вастрабрамская Маці здаўна аберагае гродзенскія землі



Многія касцёлы на Гродзеншчыне прысвечаны Маці Божай Вастрабрамскай, культ якой моцна ўкаранёны ў сэрцах мясцовых вернікаў

**16 лістапада – урачыстасць Найсвяцейшай Панны Марыі Вастрабрамскай, Маці Міласэрнасці. На працягу 25-ці гадоў Яна апекуецца Гродзенскай дыяцэзіяй як галоўная заступніца.**

**Цудатворны абраз Маці Міласэрнасці займае цэнтральнае месца ў многіх дамах нашай краіны. Гэта адна з нешматлікіх выяў, дзе Марыя прадстаўлена адна, без свайго Боскага Сына, што трапна заўважыў св. Максімільян Кольбэ і склаў малітву:**

*"Маці Божая Вастрабрамская,*
*Ты не маеш на руках Дзіцятка Езус,*
*дык вазьмі мяне на рукі*
*і пранясі шчасліва праз усё жыццё".*

● працяг на с. 3

## Каляндар падзей

***7 лістапада***
*Распачацце Навэнны апекі НПМ Вастрабрамскай, Маці Міласэрнасці, галоўнай заступніцы дыяцэзіі.*

***9 лістапада***
*Свята гадавіны асвячэння Латэранскай базілікі, катэдры біскупа Рыма – Маці ўсіх каталіцкіх касцёлаў у свеце.*

***10 лістапада***
*Успамін св. Леона Вялікага, Папы і доктара Касцёла.*

***11 лістапада***
*Успамін св. Марціна Турскага, біскупа.*

***12 лістапада***
*Успамін св. Язафата Кунцэвіча, біскупа і мучаніка.*

***13 лістапада***
*Завяршэнне Юбілейнага года міласэрнасці ў Гродзенскай дыяцэзіі.*

***16 лістапада***
*Урачыстасць НПМ Вастрабрамскай, Маці Міласэрнасці, галоўнай заступніцы дыяцэзіі.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***"Сімвал веры"***
*Тэлеперадача аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі. Выходзіць пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання на тэлеканале "Беларусь–4". Чарговы выпуск – 6 снежня ў 19.45, паўтор – 7 снежня ў 9.00.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Лістапад***

*За сясцёр і братоў з розных ордэнаў і кангрэгацый, якія дзейнічаюць на тэрыторыі дыяцэзіі.*

*Аб развіцці манаскага жыцця ў дыяцэзіі і плённай дзейнасці манахаў і манахінь у адпаведнасці з атрыманай ад свайго заснавальніка харызмай для агульнага дабра Касцёла.*

**"Марыя дапамагае мець давер да міласэрнасці Бога". Папа Францішак**

# РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

### XXXII ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Лк 20, 27–38**

Тады падышлі некаторыя з садукеяў, якія казалі, што няма ўваскрашэння, і спыталіся ў Яго: "Настаўнік, Майсей напісаў нам, што калі ў некага памрэ брат, які меў жонку, і памрэ бяздзетны, то брат ягоны павінен узяць ягоную жонку і абудзіць патомства брату свайму. Было ж сем братоў. Першы, узяўшы жонку, памёр бяздзетны. Потым другі, і трэці ўзяў яе, таксама і ўсе сямёра, не пакінуўшы дзяцей, памерлі. Урэшце, памерла і жонка. Дык вось, пасля ўваскрашэння, катораму з іх яна будзе жонкаю? Бо ў семярых яна была жонкаю". Езус сказаў ім: "Дзеці гэтага веку жэняцца і выходзяць замуж. А тыя, хто будзе годны таго веку і ўваскрасення з мёртвых, не будуць ні жаніцца, ні выходзіць замуж, ні памерці ўжо не змогуць, бо яны роўныя анёлам і з'яўляюцца сынамі Божымі, будучы сынамі ўваскрасення. А што мёртвыя ўваскрэснуць, і Майсей засведчыў, кажучы пра куст, калі назваў Пана «Богам Абрагама, і Богам Ісака, і Богам Якуба». Бог жа не ёсць Богам мёртвых, але жывых, бо ўсе для Яго жывуць".

## НОВАЕ ЖЫЦЦЁ

Жыццё пасля смерці з'яўляецца адной з найбольшых таямніц, якая цікавіць кожнага. Многія хацелі б ведаць, як яно будзе выглядаць, што за адносіны чакаюць з блізкімі і іншымі асобамі.

Евангеліст Лука прапануе спыніцца над тэмай вечнага жыцця на падставе дыялогу паміж садукеямі і Езусам. Хрыстос выразна падкрэслівае, што існаванне пасля смерці не з'яўляецца працягам зямнога быцця, а атрымлівае зусім іншы характар. У лепшым свеце не будзе адчування часу, нікога не будзе турбаваць няпэўнасць, сумненні і страх. Не будуць цікавіць мірскія справы: ці ёсць ежа ў халадзільніку або запасы на крызісны дзень, ці тое, як хораша і модна апранууца.

*Кс. Юрый Марціновіч*

### XXXIII ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Лк 21, 5–19**

Калі некаторыя гаварылі пра святыню, што яна ўпрыгожана каштоўнымі камянямі і дарамі, Езус сказаў: "Прыйдуць дні, калі з таго, што вы тут бачыце, не застанецца каменя на камені, які не будзе паваленым". І спыталіся ў Яго: "Настаўнік, калі ж гэта станецца і што будзе знакам, калі гэта павінна адбыцца?". Ён сказаў: "Глядзіце, каб вас не звялі, бо шмат хто прыйдзе пад імем Маім, кажучы «гэта Я», – і: «наблізіўся час». Не ідзіце за імі. Калі ж пачуеце пра войны і хваляванні, не палохайцеся, бо спачатку гэта павінна адбыцца, але канец не адразу". Тады сказаў ім: "Паўстане народ на народ, і каралеўства на каралеўства; будуць вялікія землятрусы, а месцамі голад і мор, і жахлівыя з'явы, і вялікія знакі з неба. Але раней за ўсё гэта накладуць на вас рукі свае і будуць пераследаваць вас, аддаючы ў сінагогі і ў вязніцы, і паставяць перад каралямі і валадарамі за імя Маё. І будзе гэта вам на сведчанне. Таму пастанавіце ў сэрцы сваім не клапаціцца наперад, як абараніцца, бо Я дам вам вусны і мудрасць, якой не здолеюць супрацьстаяць ці супярэчыць праціўнікі вашыя. Выдаваць вас будуць таксама бацькі, і браты, і родныя, і сябры, а некаторых з вас заб'юць. І ўсе зненавідзяць вас за імя Маё. Але і волас з галавы вашай не прападзе. Цярпеннем сваім уратуеце жыццё вашае".

## БОЙСЯ ТОЛЬКІ БОГА

Словы аб пераследаванні вучняў Хрыста актуальны і зараз. Сёння вера хрысціян таксама падвяргаецца вялікім выпрабаванням. Езус выразна заахвочвае глядзець на гэтыя нягоды як на магчымасць засведчыць аб сваёй веры.

Рана ці позна цяжкасці закрануць кожнага: яны ўпісаны ў хрысціянскае жыццё. Многім людзям здаецца, што супрацьстаянні з'яўляюцца балючымі, моцнымі ўдарамі, якія нішчаць, прыціскаюць да зямлі. Гэта праўда, але толькі тады, калі чалавек паддаецца, ідзе за іх нашэптваннем. Таму Хрыстос дадае Апосталам адвагі і абяцае дапамогу праз словы, поўныя даверу: "Але і волас з галавы вашай не прападзе". Езус заахвочвае сваіх вучняў не перажываць нават тады, калі іх паставяць ля сцяны, будуць вадзіць па судах, пераследаваць, калі для ўсіх яны стануць прадметам нянавісці. Пан будзе чуваць на вучнямі. І запэўнівае, што калі з-за Яго імя яны страцяць жыццё, то атрымаюць яго ў вечнасці.

*Кс. Юрый Бяганскі*



**Слова рэдактара**

*Кс. Юрый Марціновіч*

*Лістапад мае для Гродзеншчыны асаблівае значэнне. У гэтым месяцы прыпадае ўрачыстасць заступніцы дыяцэзіі – Найсвяцейшай Панны Марыі Вастрабрамскай, Маці Міласэрнасці.*

# Трывайма ў падзяцы

Выбар апякункі нашых земляў невыпадковы. Разам з узнікненнем дыяцэзіі быў прызначаны яе першы біскуп Аляксандр Кашкевіч, які прыбыў у Гродна з Вільнюса, адкуль бярэ пачатак культ цудатворнага абраза. Распачынаючы сваю паслугу, ардынарый вельмі хацеў даручыць будучыню мясцовага Касцёла Вастрабрамскай Панне. І вось ужо на працягу 25-ці гадоў Маці Міласэрнасці вядзе нас па дарогах веры, прыходзіць на дапамогу, ахінае плашчом літасці і з'яўляецца, перш за ўсё, цярплівай слухаючай Маці. Бо такое Яе заданне.

Марыя па-асабліваму адчула міласэрнасць. За ўдзел у яе аб'яўленні Найсвяцейшая Панна заплаціла сваім сэрцам. Гэтая ахвяра цесна звязана з крыжом Сына, каля якога стаяла на Кальварыі. Там пазнала цану Божай міласэрнасці, наколькі яна вялікая.

Але міласэрная любоў Бога не затрымліваецца на Марыі, а праз Яе далей аб'яўляецца ў гісторыі Касцёла і нашай дыяцэзіі ўключна. Яе чулая апека над гродзенскім Касцёлам паспрыяла таму, што сёння маем сотні месцаў культу, дзе адпраўляецца Эўхарыстыя, старанных святароў, якія жывуць для Пана, манаскіх сясцёр, гатовых да найбольшай ахвяры, і шматлікіх вернікаў, што прагнуць ісці дарогай Божых запаведзей.

Маці Божая ў Вастрабрамскім абразе стала блізкай вернікам Гродзеншчыны. Яна знайшла годнае і ганаровае месца ў многіх дамах. Стала "жыхаркай" шматлікіх сем'яў, якія прагнуць на Хрысце будаваць сваю сучаснасць і будучыню.

У юбілейным годзе для нашай дыяцэзіі і яе руплівага пастыра прагнем падзякаваць Вастрабрамскай Панне, памятаючы, што найбольшы выраз удзячнасці – калі поўнасцю адкрываемся на Бога, так, што Ён можа аддаць нам сябе ўсяго. Падзяка павінна вынікаць з унутранага пераканання, што ўсё паходзіць ад Бога і што Ён з'яўляецца крыніцай усякага дабра. Менавіта таму св. Павел у сваіх лістах заахвочваў да частай малітвы ўдзячнасці: "За ўсё дзякуйце, бо такая адносна вас воля Божая ў Езусе Хрысце" (1 Тэс 5, 18).

**Вастрабрамская Панна! Дзякуем Табе за нашу дыяцэзіяльную сям'ю, настолькі разнастайную і багатую рознымі традыцыямі і культурай. Дзякуем за нястомную дапамогу і апеку. Заклікаем, будзь побач са сваімі дзецьмі, калі ім неабходна Тваё заступніцтва і апека.**




# УЧЫНАК ДЛЯ ЦЕЛА БЛІЖНЯГА. ПАХАВАЦЬ ПАМЕРЛЫХ

Смерць – абавязковы складнік жыцця кожнага без выключэння чалавека. Гэта не заўяршэнне існавання, а яго працяг, звязаны з пераходам у вечнасць, калі душа аддзяляецца ад цела і сустракаецца са сваім Стварыцелем. Веручая можа страшыць непрадказальнасць і нечаканасць гэтага моманту. У той жа час яго непазбежнасць павінна нагадваць аб тым, што трэба ў любы час быць падрыхтаваным да смерці. Як да сваёй, так і да чужой.

Але калі галавой усё разумееш, то сэрца хутчэй перашкаджае спакойна зірнуць у вочы смерці і прыняць страту як належнае. З найбольшым болем і горычу сустракаюцца родныя і блізкія памерлага. Яны адчуваюць пустэчу, якую цяжка чымсьці запоўніць. У такія моманты важна быць побач з пакутуючым, суцешыць словам, прапанаваць сваю дапамогу. Часам няпроста знайсці патрэбныя словы, таму найлепшы варыянт – сама прысутнасць і маўклівая падтрымка ў вырашэнні ўзніклых пытанняў. Кола знаёмых традыцыйна ахвяруе сям'і памерлага фінансавыя сродкі, што мае вялікае значэнне для людзей, якія сутыкнуліся з непрадбачанымі выдаткамі.

У Бібліі гаворыцца, што пахаванне з'яўляецца абавязкам дзяцей, у большай ступені сыноў, а таксама ўнукаў і сям'і памерлага. Але здараюцца сітуацыі, калі, напрыклад, людзі цярпяць ад войнаў або паміраюць у адзіноце – і няма каму паклапаціцца пра цела. З гісторыі вядома, што нават у Езуса не было месца, дзе можна было б скласці галаву. Сваю магілу аддаў Яму сябар, Юзаф з Арымацеі. У падобных абставінах хрысціянін павінен памятаць пра свой доўг быць нераўнадушным да бліжняга. У дадзеным выпадку пакліканы клапаціцца пра пахаванне.

Паводле Катэхізіса каталіцкага Касцёла, "да цел памерлых трэба адносіцца з павагай і любоўю, што вынікае з веры і надзеі ўваскрашэння. Пахаванне памерлых – гэта ўчынак міласэрнасці адносна цела, ушанаванне дзяцей Божых, якія з'яўляюцца святыняй Святога Духа" (2300). Годнасць чалавечага цела атрымала новую вартасць дзякуючы абмываннню ў вадзе хросту. Указаная ў гісторыі стварэння, яна была пацверджана і ўзвышана ва Уцелаўленні, калі Бог прыйшоў на зямлю ў чалавечым абліччы. Таму арганізацыя годнага пахавання мае такое значэнне.

У пахаванні выражаецца вера ў стваральную моц Бога, якая грунтуецца на перакананні, што смерць – не канец, а брама да новага жыцця. У прыгожай старазапаветнай алегорыі старасці і смерці знаходзім кароткае вызнанне веры: "Вернецца прах у зямлю, чым ён і быў; а дух вернецца да Бога, Які даў яго" (Экл 12, 7).



Важна ўсведамляць, што клопат аб памерлым не павінен заканчвацца на пахаванні. Неабходна перыядычна наведваць магілкі, даглядаць за месцам спачыну цела. Усё гэта з'яўляецца выразам павагі да чалавека, які адышоў у вечнасць. Незаменнай дапамогай становіцца малітва ў яго інтэнцыі, замоўленая св. Імша ў гадавіну смерці, дзень імянін і нараджэння. Хрысціянская памяць аб памерлых не абмяжоўваецца прыгожым помнікам, кветкамі і свечкамі. Нашмат больш значыць духоўнае заступніцтва перад Богам, выказанае ў малітвах. Для гэтага неабходна мець моцную веру і жаданне прагнуць руку дапамогі бліжняму. Пры тым памятаць словы Збаўцы: "Я – уваскрасенне і жыццё. Хто верыць у Мяне, калі нават і памрэ, будзе жыць. А кожны, хто верыць у Мяне, не памрэ ніколі" (Ян 11, 25–26).

*Ангеліна Пакачайла*

**5 прычын здзейсніць учынак міласэрнасці:**

1. *Са смерцю асоба засынае целам, а душой адпраўляецца на сустрэчу з Богам.*
2. *"Абалонка" душы павінна ператварыцца ў прах, з якога была створана.*
3. *Чалавеку належыць з павагай адносіцца да цела нябожчыка.*
4. *Памерламу неабходна паслуга жывых.*
5. *Пахаванне немагчыма прадбачыць і запланаваць.*



*Кс. Павел Астукевіч*

*Пасля смерці памерламу неабходна заплюшчыць вочы, прыпадабняючы яго да спячага чалавека. Затым трэба абмыць і апрануць цела. Дома каля крыжа і запаленых свечак – памаліцца. У гэты момант варта захоўваць засяроджанасць, далікатнасць, чуласць, спачуванне, жаль. Пасля ў пахавальнай працэсіі накіравацца ў касцёл на св. Імшу, цэлебраваную за душу памерлай асобы. Калі мы ўдзельнічаем у пахаванні як сваякі, суседзі, сябры ці знаёмыя, таксама выконваем сёмы ўчынак міласэрнасці адносна цела. Высакародная і годная справа – споведзь і прыняцце Камуніі ў інтэнцыі памерлага. Пастава спачування, дапамогі, суцяшэння з'яўляецца сведчаннем нашай веры ў жыццядайную моц Пана Бога і надзеі на сустрэчу з памерлымі ў супольнасці збаўленых.*

# Вастрабрамская Маці здаўна аберагае гродзенскія землі

• працяг са с. 1


Св. Імша ў капліцы Маці Божай Міласэрнасці ў Вільні з удзелам пілігрымаў з Беларусі

Амаль 400 гадоў на літоўскай зямлі валадарыць Вастрабрамская Панна, Маці Усходу і Захаду. Свецяць бляскам прыгожых шатаў праз акно капліцы ў Вільні, бачная здалёк. Але слава цудоўнага абраза ўжо даўно перайшла межы Літвы, бо рукі Маці Божай без Дзіцятка Езус нібы хочуць прытуліць кожнага, выслухаўшы ўсе радасці, праблемы і перажыванні.

Хто калісьці наведваў Вастрабрамскую капліцу ў Вільнюсе, напэўна, выходзіў адтуль у захапленні, духоўна ўзбагачаны. У простых белых сценах, дзе няма ні мармуру, ні жэмчугу і каштоўных камянёў, ні каралеўскіх дароў, вісяць толькі срэбныя бляшкі ў форме ног, рук, вачэй, сэрцаў... На некаторых з іх можна ўбачыць нязграбныя надпісы, быццам надрапаныя шпількай. Найбагацейшае вота – вялікі срэбны паўмесяц, які займае ўсю ніжнюю частку алтара. Такі характар Вострай Брамы. Такая пашана, якую там атрымлівае Маці Міласэрнасці, што чула ахінае цэлы свет.

Выпрошваючы ў Бога дары, Марыя пацвярджае, што міласэрнасць Яе Сына не ведае межаў і даходзіць да ўсіх без выключэння. Задуменная, заслуханая ў літанію просьбаў, прымае кожнага, хто туды прыбывае. Яна Маці ўсіх людзей.

Менавіта Марыя праз згоду на прыняцце Божага Сына адкрыла свету шлях да атрымання міласэрнасці. Яе Бог выбраў для вялікай справы. Марыя "ўвайшла ў санктуарый Божай міласэрнасці, таму што ўнутрана ўдзельнічала ў таямніцы Яго любові" (Папа Францішак, Misericordiae vultus 24). Айцец напоўніў сэрца Беззаганнай той жа міласэрнасцю, якую сам удзяляе грэшнікам і якая схіліла Хрыста выдаць сябе за грахі свету. Таму ў Ёй і праз Яе рэалізуецца справа Божай міласэрнасці, што адтымала рысы сапраўднай мацярынскай любові.

Марыя ніколі не затрымлівае наш позірк на сабе, а скіроўвае яго да Сына, перад якім сама схіляецца. Прагне, каб у цэнтры ўвагі была Божая міласэрнасць, найбольш поўна раскрытая ў Езусе, трываючая "з пакалення ў пакаленне" (Лк 1, 50). Папросім жа Яе, каб навучыла адчувальнасці сэрца і міласэрнасці да другога чалавека. Падзякуем за тое, што мае ў асаблівай апецы Касцёл на Гродзеншчыне.

Няхай залатая Вастрабрамская Панна прытуліць сваімі далонямі тых, хто вагаецца ці ў роспачы. Няхай няшчасным дасць выратаванне, усім сляпым пакажа каштоўнасці і скарбы рэлігійнага жыцця, а заблукалых выведзе на дарогу сапраўднай веры.



• Дзякуючы Маці Божай Вастрабрамскай здзейснена мноства цудаў. Першы з іх меў месца ў 1671 годзе. Пасля падзення на брук з 3-га паверха дзіця ацалела і не атрымала ніякіх траўм.

• Выражэннем культу і ўдзячнасці вернікаў да Маці Міласэрнасці з'яўляецца некалькі тысяч вотаў, што складаюць сярэбраную накладку на сценах Вастрабрамскай капліцы. Медальёны, гаржэты, таблічкі, каралі – толькі некаторыя з іх.

• Згодна апошнім даследаванням, абраз Вастрабрамскай Панны быў намаляваны на дубовых дошках каля 1620-1630 года ў Вільні невядомым мастаком.

• На мяжы XVII і XVIII стагоддзяў абраз аздобілі сярэбранымі пазалочанымі шатамі (хутчэй за ўсё, у дар ад віленскіх залатароў). Убранне складаецца з 17-ці частак агульнай вагой каля 14-ці кг.

• Пад металічнай сукенкай Маці Божая апранута ў чырвоную туніку з падкасанымі рукавамі. Шыя прыкрыта шалем, а галава – белай хусткай. Постаць Марыі ўкрывае зеленавата-блакітны плашч, свабодна накінуты на галаву і плечы.

• Галаву Маці Божай аздабляюць дзве кароны. Першая паходзіць з канца XVII стагоддзя, другая – з сярэдзіны XVIII стагоддзя (яе падтрымліваюць 2 анёлы).

• Выяву Вастрабрамскай Панны размясціў на сваім прыміцыйным абразку св. Ян Павел II.

• Абраз шануецца хрысціянамі ўсіх канфесій.


**Марына Буйніцкая**

*Маці Міласэрнасці... Як толькі чую гэтыя словы, на душы становіцца светла, а сэрца напаўняецца радасцю і супакоем.*

*Да сустрэчы з Маці Божай у Вастрабрамскім абліччы я пачынаю рыхтавацца адразу пасля таго, як вяртаюся з чарговага пешага паломніцтва ў Вільню. Кожны раз заўважаю, што маю шчасце судакрануцца ў пілігрымцы з людской набожнасцю і адчуць паўсюдную Святога Касцёла. Прыкладам таму з'яўляюцца паломнікі – вернікі з Польшчы, Беларусі і Літвы. Ажно 11 разоў я ішла ў Пешай экуменічнай пілігрымцы Беласток – Гродна – Вільня.*

*Усё пачалося з таго, як мама запрасіла да нас на начлег жанчыну з Зялёнай Гуры, якая пілігрымавала ў Вільню. Акурат у той час у мяне былі праблемы са здароўем. Памятаю, яна сказала бацькам: "Дачка ў вас такая прыгожая, шкада, што так моцна хварэе". Тады ў мяне з'явілася адчуванне, што я, нягледзячы на недамаганне, змагу падняцца і дайсці да цудадзейнай іконы, як некалі ў дзяцінстве паўстаць перад Яе непаўторным абліччам. І так сапраўды сталася. Дзякуючы Езусу і Марыі я вылечылася ды аднавіла сваё духоўнае і фізічнае сілы.*

*У Вастрабрамскай літаніі ёсць словы, у якіх пілігрымы просяць: "Вызначы маршрут, складаны маршрут, але добра вядомы. Дай нам дайсці да Твайго неба праз Вострую Браму". Таму хачу з упэўненасцю сказаць, што з Марыяй усё магчыма. Адвагі! Рыхтуйце свае сэрцы і далучайцеся.*


**Марцаліна Марцінчык**

*Я з'яўляюся парафіянкай касцёла Найсвяцейшай Панны Марыі Вастрабрамскай, Маці Міласэрнасці ў Гродне (Аўгустовак). Таму у адпустовую ўрачыстасць, якая прыпадае 16 лістапада, разам з бацькамі наведваю святыню і прымаю ўдзел у св. Імшы ў гонар галоўнай апякункі парафіі і дыяцэзіі.*

*Мая сям'я звяртаецца да Маці Міласэрнасці не толькі ў дзень Яе літургічнага ўспаміну, але і ў штодзённых малітвах. Маем дома абраз Маці Божай Вастрабрамскай, перад якім просім Марыю апекавацца нашай сям'ёй. Шчыра верым, што Яна заўсёды выслухае і дапаможа ў цяжкія хвіліны. Дадавяраць свае просьбы Маці Міласэрнасці мяне навучылі тата і мама, паколькі самі некалі бралі прыклад са сваіх бацькоў.*


**Віталій Рабянок**

*Вельмі часта звяртаюся ў сваіх малітвах да Маці Божай Вастрабрамскай. Бязмерна ўдзячны, што ў найбольш важныя моманты жыцця Яна заўсёды побач.*

*Маці Міласэрнасці ўшаноўваю не толькі праз малітву, але таксама праз удзел у пілігрымцы ў Вільню. Мне падабаецца дух і атмасфера гэтага паломніцтва: можна і паспяваць, і папанчыць, і задумацца ў цішы над пэўнымі рэчамі. Ідучы ў Вострую Браму, мы шмат молімся, прымаем удзел у канферэнцыях, знаёмімся з гісторыяй, культурай і традыцыямі літоўскага народа.*



## Урачыстасць Маці Божай Вастрабрамскай адбудзецца ў катэдральнай базіліцы

**Эўхарыстыя ва ўрачыстасць заступніцы дыяцэзіі пройдзе 16 лістапада ў касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне.**

**Праграма:**

11.30 – малітва брэвіярыя катэдральнага капітула;
12.00 – св. Імша ў інтэнцыі дыяцэзіі
*(узначальвае біскуп Аляксандр Кашкевіч).*

*Да ўдзелу ў набажэнстве запрашаюцца вернікі Гродна і ваколіц.*

***Кс. Юрый Марціновіч, Кінга Красіцкая***

## Слова для жыцця

### *Папа Францішак*



*Зараз час місіі і адвагі, адважнага ўмацавання няўстойлівых крокаў, аднаўлення смаку прысвячэння сябе Евангеллю і даверу да сілы, якую нясе місія. Гэта час адвагі, нават калі яе наяўнасць не з'яўляецца гарантыяй поспеху. Яна патрабуецца ад нас для таго, каб змагацца, але неабавязкова, каб перамагчы; каб абвяшчаць, але неабавязкова, каб пераканаць. Адвага патрэбна, каб быць альтэрнатыўнымі свету, аднак, ніколі не становіцца палемічнымі ці агрэсіўнымі. Каб быць адкрытымі для ўсіх, не памяншаючы абсалютнасці і выключнасці Хрыста, адзінага Збаўцы ўсіх. Каб змагацца з невер'ем, але не становіцца пыхлівымі.*

*Анёл Панскі са Святым Айцом, 23.10.2016*

### *Кс. бп Аляксандр Кашкевіч*



*Калі адгаворваем Ружанец, разважаем таямніцы з жыцця Езуса і Марыі, вучымся яднаць нашу штодзённасць з Богам, прымаць усё, што Ён нам дае, з верай, пакорай і ўдзячнасцю. Таму ружанцовая малітва з'яўляецца вялікай і незвычайнай школай рэчаіснасці, у якой кожны знойдзе штосьці для сябе: дзіця і стары, мужчына і жанчына, свецкая і духоўная асоба, бедны і багаты, прастак і мудрэц, святы і грэшнік. Для ўсіх, хто моліцца Ружанцам, ён становіцца цудоўнай духоўнай ежай, якая ўзбагачае, умацоўвае, напаўняе сэрца супакоем, мужнасцю і сапраўднай Божай радасцю.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай падчас сустрэчы Колаў Жывога Ружанца ў Капцёўцы, 29.10.2016*

### *Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч*



*Нам неабходна прызнаць сваю грахоўнасць і недасканаласць. Прызнаць уласных памылак з'яўляецца першым крокам да вырашэння праблемы, якая з-за іх узнікла. У той жа час абвінавачванне іншага ў асабістых ўжыхасцях, асабліва духоўных, нічога не дасць, бо не вядзе да іх ўрэгулявання. У адной старой хрысціянскай прыказцы гаворыцца, што зграшыць – гэта па-чалавечы, таму што з-за першароднага граху мы схільныя да зла. Але трываць у граху – ужо д'ябальская справа.*

*Прыярытэтам жыцця неабходна выбіраць пакору, а не ганарлівасць. Гонар – гэта стаўленне, якое прымушае нас як быццам "крэдытаваць" сябе саміх. Вось, маўляў, я здольнейшы, разумнейшы, спраўнейшы, прыгажэйшы, мацнейшы за іншых і г. д. Але трэба памятаць аб тым, што Бог, а не чалавек, мае апошняе слова і што час усё расстаўляе па сваіх месцах. Гісторыя пацвердзіла гэта неаднойчы.*

*У нас няма кантролю над часам. Кожны мае абмежаваную, вызначаную Богам колькасць сардэчных скарачэнняў. Таму не ганарлівасць, але Хрыстовая пакора будзе лічыцца ў канцы жыцця.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай у XXX Звычайную нядзелю*




◆ *По дадзеных Статыстычнага штогодніка Касцёла, колькасць католікаў у свеце павялічылася на 18 млн. Такім чынам, колькасць вызнаўцаў Хрыста дасягнула 1,3 млрд. чалавек. Узрасла таксама агульная колькасць святароў. Галоўным чынам – у Азіі і Афрыцы. А ў Еўропе і Амерыцы іх стала менш. Паменшылася колькасць манаскіх братоў і сясцёр, а таксама семінарыстаў, што рыхтуюцца да святарства. Рост колькасці клерыкаў зауважаецца толькі ў Афрыцы і Акіяніі.*

◆ *Святы Айцец Францішак аб'явіў, што летняя рэзідэнцыя ў Кастэль Гандольфа (папскія апартаменты Апостальскага палаца) зачыняецца і стане часткай музея. Рэзідэнцыя існуе з часоў Урбана VIII (XVII ст.). У часе свайго понтыфікату папа Францішак не правёў там ні адной ночы. У распараджэнне турыстаў будзе перададзена папская спальня, капліца, бібліятэка, кабінет, пакоі сакратароў, швейцарская зала, а таксама зала кансісторыя, у якой сустракалася калегія кардыналаў.*

◆ *Хутка стартуе IV тур папскай дабрачыннай латэрэі. Білеты на яе можна купіць праз інтэрнэт (на старонцы vaticanstate.va). Выручаныя сродкі будуць выкарыстаны для аказання дапамогі ахвярам трагічнага землятрусу, які ў жніўні адбыўся ў цэнтральнай частцы Італіі, а таксама на падтрымку ініцыятыў на карысць бяздомных. Сярод прызоў ёсць некалькі падарункаў, якія Папа атрымаў у мінулым годзе: аўтамабіль "Опель", пёравая ручка "Montblanc", некалькі веласіпедаў, гадзіннік, кавамашына, гамак. Білеты на латарэю каштуюць 10 еўра. Розыгрыш прызоў адбудзецца 2 лютага 2017 года ў прысутнасці спецыяльнай камісіі.*

◆ *Больш за 2 млн. пілігрымаў з усяго свету наведалі ў Фаціме выставу "Зямля і Неба. Пілігрымы і святыя з Фацімы". Экспазіцыя была прадстаўлена ў падзямеллі базілікі Найсвяцейшай Тройцы. Сярод экспанатаў – крыж, які Маці Божай Фацімскай падарыў св. Айцец Піо, ружанец св. Маці Тэрэзы з Калькуты, акуляры Слугі Божай Лусіі ад Езуса, удзельніцы аб'яўленняў 1917 года. Выстава падрыхтавана да 100-годдзя марыйных аб'яўленняў у Фаціме. У наступным годзе плануецца каля 150-ці разнастайных мерапрыемстваў звязаных са святкаваннем гэтай падзеі.*

◆ *У Аўганістане ёсць толькі адно месца, у якім штодзённа адпраўляецца св. Імша. Гэта каталіцкая капліца, што знаходзіцца на тэрыторыі італьянскага пасольства. Як гаворыць пробашч а. Джавані Сцалезэ, у краіне, "без сумнення, тысячы вернікаў", але толькі нямногія з іх практыкуюць веру. Але і тыя нячаста могуць прыходзіць у касцёл. Нядзеля тут з'яўляецца працоўным днём. Больш таго, з меркаванняў бяспекі часта нельга пакідаць дамы. Звычайна ў нядзельнай Імшы ў капліцы прымае ўдзел 30-50 чалавек.*

*pch24.pl; ekai.pl; credo-ua.org*

***Ангеліна Пакачайла***



# Блізкія па роду і духу



**Як паведаміла Ватыканскае радыё, у канцы кастрычніка Святы Айцец Францішак прыняў на аўдыенцыі членаў Папскага інстытута Яна Паўла II – арганізацыі, якая займаецца вывучэннем пытанняў, звязаных з сям'ёй і сужэнствам. Пантыфік заўважыў, што актуальнай сёння з'яўляецца тэма "блізкасці" Касцёла. Пажадаў, каб тэалогія і душпастырства сем'яў ішлі разам. На гэтай падставе прапануем паразважаць над тэмай душпастырства сем'яў у Гродзенскай дыяцэзіі.**

## Сям'я – гэта хатні Касцёл

Кожны пробашч дыяцэзіі становіцца душпастырам сем'яў, якімі апекуецца ў парафіі. У сваю чаргу ўсякі вернік уваходзіць у гэтую супольнасць, таму што з'яўляецца бацькам або маці, сынам або дачкой. Душпастырства сем'яў нельга вылучыць са структуры Касцёла, паколькі ўсе верныя складаюць адну вялікую хрысціянскую сям'ю.

Як жа духавенства сёння клапоціцца аб сем'ях? Ва ўсіх парафіях адбываецца адпаведная падрыхтоўка нарачоных да прыняцця сакраманту шлюбу. Штогадова ва ўрачыстасць Святой Сям'і сужэнцы аднаўляюць прысягу і разам з дзецьмі схіляюць галовы на бласлаўленне перад Найсвяцейшым Сакрамантам. У перыяд Божага Нараджэння адбываецца душпастырскае наведванне сем'яў. Асвячаецца жыллё, а пробашч можа бліжэй пазнаёміцца з вернікамі. У свабоднай абстаноўцы парафіяне могуць задаць святару разнастайныя хвалюючыя пытанні. Як правіла, для бацькоў і дзяцей падчас Адвэнту і Вялікага посту ў парафіях ладзяцца рэкалекцыі.

Рэкалекцыі-ўікэнды па аднаўленні і паглыбленні сямейнай еднасці і любові ладзіць рух свецкіх "Сужэнскія сустрэчы". Іх праводзяць адпаведна падрыхтаваныя пары і святар. Спатканні дапамагаюць мужу і жонцы нанова адкрыць таямніцу шлюбу, адчуць свежасць узаемных пачуццяў. Дарэчы, бліжэйшыя такія рэкалекцыі адбудуцца 25–27 лістапада ў Баранавічах. Арганізатары выказваюць спадзяванні, што такі ўікэнд у будучым можа прайсці і ў Гродне.

## У пошуках адказаў на пытанні

Спецыяльныя духоўныя практыкаванні для сем'яў перыядычна арганізоўваюць манаскія супольнасці, харызма якіх звязана з клопатам пра сям'ю. Каля 7-мі гадоў таму па ініцыятыве сясцёр назарэтанак у дыяцэзіі паўстала Асацыяцыя Святой Сям'і з Назарэта. У яе ўваходзяць сужэнцы, якія прагнуць жыць па прыкладзе Марыі і св. Юзафа, пераймаць іх у пакоры, любові і прабачэнні. Асацыяцыя збірае на сваіх сустрэчах усіх жадаючых. У кожную 4-ую нядзелю месяца такія спатканні адбываюцца пры кляштары сясцёр назарэтанак у Гродне. Агульныя сустрэчы некалькі разоў на год праходзяць у Навагрудку.

Амаль на працягу 20-ці гадоў у Гродне дзейнічае Каталіцкая сямейная кансультацыя. Ва ўстанове працуюць псіхолагі, кансультант па справах сямейнага жыцця, інструктар натуральнага планавання сям'і, кансультант па праблемах наркаманіі і алкагалізму, дарадчык па сямейным жыцці. Усе паслугі спецыялістаў бясплатныя. У найбольшых гродзенскіх парафіях адкрыты філіялы сямейнай кансультацыі, дзе адбываюцца перадшлюбныя курсы і размовы з супрацоўнікамі ўстановы. Выязная кансультацыя штогадова адкрываецца падчас адпустовай урачыстасці ў Тракелях, дзе на працягу многіх гадоў знаходзіцца цудадзейны абраз Найсвяцейшай Панны Марыі, Каралевы Нашых Сем'яў. Узначальвае Каталіцкую сямейную кансультацыю ў дыяцэзіі кс. Павел Салабуда.

Пры парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне дзейнічае Школа сямейнага жыцця, якая штогод аб'яўляе набор навучэнцаў на курс, накіраваны на падрыхтоўку сямейных кансультантаў. Апекуецца школай а. Дзмітрый Лабкоў CSsR. "Мы рыхтуем кадры, якія затым змогуць дапамагаць у сваіх парафіях: напрыклад, у падрыхтоўцы пар да шлюбу, – зазначае душпастыр. – Сёння сем'і патрабуюць індывідуальнага падыходу, шукаюць адказы на канкрэтныя пытанні. Таму кваліфікаваныя сямейныя кансультанты – якраз той накірунак, у якім патрэбна развівацца".

Усе праграмы душпастырскай працы з сем'ямі зацвярджае Рада па справах сям'і пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Беларусі, якую ўзначальвае бп Антоній Дзям'янка.

## З'яднаца для натхнення

Немалаважную ролю адыгрываюць сустрэчы сем'яў, дзе існуе магчымасць наладзіць кантакт, знайсці падтрымку, падзяліцца вопытам. На ўсебеларускім узроўні гэта Нацыянальная пілігрымка сем'яў, якая штогод ладзіцца ў розных святых месцах краіны. У Гродзенскай дыяцэзіі такія спатканні прайшлі ў Тракелях, Гудагаі і Гродне. 2 месяцы таму нацыянальная пілігрымка сабрала беларускія сем'і ў Браславе. У мерапрыемстве прынялі ўдзел і прадстаўнікі гродзенскай дыяцэзіі. "Мне запомнілася праца ў групах, – распавядае Вольга Салосіна. – Панавала атмасфера шчырага дыялогу. Сужэнцы не толькі закраналі станоўчыя моманты свайго жыцця, але і дзяліліся цяжкасцямі, што перажываюць у сям'і. Такія «жывыя» сведчанні кранаюць чалавека мацней, чым навука святара з амбона. Мне здаецца, што падобнага ўзаемадзеяння паміж сем'ямі ў нашай дыяцэзіі не хапае".

У маі бягучага года ў Баранавічах адбыўся Першы агульнабеларускі сямейны кангрэс. У ім прынялі ўдзел члены шматлікіх сямейных рухаў, прысутных у Беларусі.

На Гродзеншчыне ўжо стала добрай традыцыяй Дыяцэзіяльная сустрэча сем'яў. Другі год запар яна пройдзе ў Лідзе. Спатканне мае на мэце з'яднаць сем'і праз малітву, сведчанні і будаванне супольнасці.

Цудоўнай нагодай для ўмацавання сям'і з'яўляюцца розныя святы. Адзін з апошніх прыкладаў таму – Фестываль сям'і, які адбыўся ў маі бягучага года ў Навагрудку. Ініцыятарам мерапрыемства выступіла парафія св. Міхала Арханёла. "Мы хацелі падкрэсліць вартасць і прыгажосць сямейнага жыцця, – адзначае пробашч кс. Юрый Жэгарын. – Вельмі важная ў ім прысутнасць хрысціянскіх каштоўнасцей, галоўная з якіх – любоў. Менавіта яна з'яўляецца матывам кожнага дзеяння, без яе нічога немагчыма зрабіць. А адсюль і адзінства, вернасць і разуменне ў сям'і".

## У цэнтры саюза мужчыны і жанчыны – Бог

"Сапраўдная радасць, якая перажываецца ў сям'і, – гэта не штосьці выпадковае, – заўважае папа Францішак. – Яна з'яўляецца плёнам глыбокай гармоніі паміж людзьмі, што дазваляе адчуць прыгажосць прабывання разам, узаемнай падтрымкі на жыццёвым шляху. У аснове радасці заўсёды знаходзіцца прысутнасць Бога, Яго адкрытай, міласэрнай і цярплівай любові да ўсіх". Пра гэта павінна памятаць кожная сям'я: як у смутку, так і ў радасці.

***Ангеліна Пакачайла***



*Шчаслівая тая сям'я, якая жыве з Богам*



*З уваходам у сям'ю Хрыста ўзыходзіць духоўнае сонца, якое ўсіх асвятляе, саграває і падбадзёрвае*

## Дыяцэзіяльная сустрэча сем'яў

**Спатканне адбудзецца 12 лістапада ў лідскай парафіі Святой Сям'і. Сужэнцы і іх дзеці памоляцца аб тым, каб быць моцнымі ў Богу, захоўваючы вернасць каштоўнасцям, якія з'яўляюцца фундаментам сямейнага інстытута.**

**Праграма:**

10.30 – рэгістрацыя груп і прывітанне;
11.00 – канферэнцыя для сем'яў;
– праграма для дзяцей *(з аніматарамі)*;
11.30 – перапынак на каву;
12.00 – адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту;
13.00 – сведчанні сужэнцаў;
13.45 – перапынак на абед;
14.15 – св. Імша з аднаўленнем сужэнскіх абяцанняў *(узначаліць біскуп Аляксандр Кашкевіч)*;
– акт аддання сем'яў Маці Божай;
– заканчэнне.

У праграме прадугледжаны абед у індывідуальным парадку. Пры сабе мець бутэрброды і гарбату ў тэрмасе.

*Падрабязная інфармацыя па тэлефонах: (8-0152) 74-00-73, (8-029) 784-05-72.*

# Ёсць такі від лекавання – любоўю і верай


Галіна Карэва з сынам Вадзімам, дачкой Ганнай і іх сябрам

**Нараджэнне дзіцяці амаль для кожнай жанчыны – самы шчаслівы момант у жыцці. Колькі радасці, эмоцый і чаканняў прыносіць у свет маленькі чалавек! Мары любячай матулі руйнуюцца ў адзін момант, калі дзіця страчвае здароўе.**

**Выхоўваць дзіця з абмежаванымі магчымасцямі выпала на лёс многіх матуль. Сярод іх – Галіна Карэва. Пачуўшы страшны дыягназ сына, жанчына не апусціла рукі, не страціла веру ў Бога і людзей. Цягам 28-мі гадоў яна годна пераносіць усе выпрабаванні, з якімі сутыкаецца ў жыцці.**

**Галіна Іосіфаўна, раскажыце, калі ласка, калі Вы даведаліся, што ў сына праблемы са здароўем?**

Вадзім меў тады 3 гады. Мы жылі ў Лідзе, сын хадзіў у дзіцячы садок. Быў вельмі абаяльным хлопчыкам, выдзяляўся сярод дзяцей: любіў спяваць песні, часта залазіў на крэсла і расказваў вершы. Аднойчы Вадзіму стала блага, паехалі з ім у бальніцу... Дактары не адразу выкрылі захворванне. А калі агучылі, што ў сына пухліна галаўнога мозга, зямля сышла з-пад ног. Трэба было прыняць гэты нечаканы паварот лёсу і адказаць на выклікі, якія паставіла перад намі жыццё: альбо зламацца, альбо змагацца. Мы выбралі другое і пачалі барацьбу з хваробай.

Я сышла з працы, паколькі добра разумела, што цяпер мая галоўная задача – быць побач з сынам і ахінаць яго сваёй любоўю ў хвіліны цярпення. Вадзіму зрабілі аперацыю, пасля якой ён 2 тыдні знаходзіўся ў коме. Увесь гэты час я практычна не выходзіла са шпіталя. Кожную раніцу а 6-й гадзіне ўжо чакала перад уваходам у рэанімацыйнае аддзяленне. У 7.30 прыходзіў доктар. Нічога не кажучы, прабягаў міма па лесвіцы і ішоў праверыць стан здароўя майго сына. Толькі пасля падыходзіў да мяне, вітаўся і распавядаў, як адчувае сябе Вадзім. Затым мне дазвалялі на некалькі хвілін зайсці ў палату. Пасля я накіроўвалася ў касцёл на св. Імшу, падчас якой малілася ў інтэнцыі свайго хлопчыка. Потым мела час на ўладжванне сваіх спраў, а вечарам ізноў была ў шпіталі. І так больш-менш выглядаў кожны чарговы дзень. Няма адпаведных слоў, каб выказаць маю ўдзячнасць лідскаму хірургу Іосіфу Барташэвічу, які тады змагаўся за жыццё сына...


Першая святая Камунія Вадзіма

Наперадзе Вадзіма чакала прамянёвая тэрапія і доўгі курс рэабілітацыі. Мы літаральна жылі “на калёсах”: 2 тыдні дома, 2 тыдні ў шпіталі. Рабілі ўсё, што на той момант было магчыма.

**Як хвароба сына паўплывала на Ваш светапогляд?**

Абставіны прымусілі мяне паглядзець на жыццё зусім з іншага боку, цалкам пераацаніць каштоўнасці.

Сын захварэў у 1991 годзе, у час страшэннага дэфіцыту, калі людзі цэлы дзень стаялі ў чэргах, каб купіць тэлевізар, прыгожы дыван ці яшчэ нешта. Памятаю, кожны дзень па дарозе ў шпіталь я праходзіла міма гэтых натоўпаў. У галаве з’яўлялася думка, што ніякае матэрыяльнае багацце не можа быць жыццёвым прыярытэтам. Людзі часта бягуць, спяшаюцца, мітусяцца па дробязях і засмучаюцца, калі нешта не атрымліваецца. Але ці варта засяроджвацца на нейкіх бытавых праблемах? Калі ў мяне захварэла дзіця, усё адышло на другі план. Я зразумела, што трэба цаніць жыццё, умець спыняцца і глядзець навокал.

Яшчэ я стала бліжэй да Бога. Калі Вадзіму рабілі аперацыю, я трывала ў маўчанні, малілася і чакала. Разумела: урачы робяць усё магчымае, і надзея застаецца толькі на Бога. Здараецца, што ў цяжкіх жыццёвых сітуацыях людзі пачынаюць шукаць ратунку ў знахараў, варажбітак і г. д. Адным словам, чапляюцца за кожную саломінку. У мяне нават не ўзнікала думкі, каб са сваімі праблемамі звярнуцца да іх. Вельмі ўдзячна Усявышняму за тое, што не дапусціў, каб я збочыла з правільнага шляху.

**Выхоўваючы хворае дзіця, бацькі сутыкаюцца з праблемай інтэграцыі сваёй сям’і ў грамадства, і найперш – інтэграцыі дзіцяці. Ці мелі Вы падобныя праблемы?**

Я лічу, што толькі змагацца за жыццё – недастаткова. Таму старалася зрабіць так, каб мой сын жыў паўнавартасна настолькі, наколькі гэта магчыма. Калі Вадзіму было 7 гадоў, ён пачаў вучыцца. Сыну было рэкамендавана надомнае навучанне. Але Вадзім часам наведваў школу, калі дазваляла здароўе. Там ён сустракаўся са сваімі сябрамі, весела бавіў час і не адчуваў сябе адзінокім.

Сітуацыя змянілася, калі сын перайшоў у 6 клас. На той час мы пераехалі ў Гродна. Сябры Вадзіма засталіся ў Лідзе, ён пачаў сумаваць. Але тут на дапамогу прыйшлі айцы рэдэмптарысты з парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля на Дзевятоўцы. Яны адсочваюць лёсы сем’яў са сваёй парафіі, ведаюць, хто чым жыве, каму якая дапамога патрэбна. Святары даведаліся, што ў парафіі з’явілася новая сям’я, і накіравалі да нас валанцёраў. Тыя бавілі з Вадзімам вольны час, разам нешта гатавалі на кухні, хадзілі на шпацыр, у тэатр. Хлопцы сталі для сына сапраўднымі сябрамі. Зараз некаторыя з іх маюць свае сем’і. Але пра Вадзіма не забываюць: тэлефануюць, прыходзяць у госці. Мяркую, у гэтым годзе збяруцца ў нас разам са сваімі сем’ямі, каб адзначыць Новы год.

Дзякуючы святарам і манаскім сёстрам, якія служаць у гродзенскім касцёле на Дзевятоўцы, Вадзім прыступіў да Першай св. Камуніі. З-за праблем са здароўем мы доўга рыхтаваліся, а пасля чакалі адпаведнага моманту, каб сын змог самастойна пайсці ў святыню на ўрачыстасць. З Божай дапамогай усё атрымалася. Ён нават здолеў адхадзіць на набажэнствы ўсяго белага тыдня. Праз некалькі гадоў у гэтай жа парафіі Вадзім пабежмаваўся.

**У грамадстве склалася меркаванне, што бацькі дзяцей-інвалідаў – глыбока няшчасныя людзі. А Вы, здаецца, сваёй цеплынёй і дабрынёй здольны абняць увесь свет. Як, нягледзячы на цяжкасці, не ўпасці духам?**

Для кожнага чалавека важна палюбіць жыццё, навучыцца прымаць усё, што пасылае Бог. Узяўся за нейкую справу, а так не хочацца... Дык палюбі яе сваім сэрцам і душой, і зробіш усё належным чынам! Я навучылася дзякаваць Богу за свайго Вадзіма, бо гэта маё дзіця, дарагі сын, памочнік, радасць.

Кажуць, што маці – апора для дзяцей. А ў мяне наадварот. Акрамя Вадзіма маю яшчэ дачку Ганну. І я не магу сабе ўявіць, што б без іх рабіла. Бо калі мне цяжка і дрэнна, яны мяне шкадуюць і падтрымліваюць.

Знаёмыя, якія так як я выхоўваюць дзяцей з асаблівасцямі развіцця, часта гавораць: “Гледзячы на цябе, хочацца жыць”. А я лічу, што гэта норма: кожная маці, калі імкнецца дапамагчы свайму дзіцяці, павінна трымацца з усіх сіл, каб жыць пазітыўна. Хачу сказаць усім бацькам: не ўпадайце ў крайнасці, не жальцеся на людзей. На самой справе, ніхто не хоча вас пакрыўдзіць, а, наадварот, працягвае руку дапамогі. Не рабіце людзям зла, беражыце сваю душу, бо яе вельмі лёгка можна загубіць...

*Кінга Красіцкая*

## Парады для бацькоў, якія выхоўваюць дзіця-інваліда:


***Вольга Шульга,***
*дырэктар ГДА “Гродзенскі дзіцячы хоспіс”*

- **Любіце** сваё дзіця нягледзячы на стан яго здароўя.
- **Будзьце актыўнымі,** інтэгруйце дзіця ў грамадства.
- **Шукайце** пазітыўныя гісторыі.
- **Вучыцеся** разбірацца ў юрыдычных аспектах праблемы.
- **Верце** ў добрых людзей і дапамогу грамадства.
- **Не засмучайцеся,** калі ідзеце па вуліцы і здаецца, што на Ваша дзіця звяртаюць асаблівую ўвагу. На самой справе глядзяць на ўсіх дзяцей.
- **Старайцеся** атрымліваць асалоду ад бацькоўства. Не стаўце хваробу ў цэнтр свайго жыцця. Ваша дзіця такое, якое ёсць – яго памяняць нельга.
- **Падумайце**, калі Вам зусім дрэнна, што ў людзей бываюць нашмат складанейшыя сітуацыі.
- **Дапамагайце** іншым.




## Малітва аб благаслаўленні для сям’і

**Божа добры і міласэрны, аддаём у Тваю апеку наш дом, сям’ю і ўсё, што маем. Блаславляй нас, беражы ад усяго злога, ахоўвай у небяспецы, захоўвай ад няшчасця, умацоўвай нашу веру. У смутку і цярпенні дай шчырую надзею. Учыні, каб мы заўсёды былі паяднаныя з Табою.** *Амэн.*




### *Прабег Божай міласэрнасці прайшоў у Кракаве*

***Праз гульні і забавы ўдзельнікі мерапрыемства пазнавалі асоб і месцы, звязаныя з культам Божай міласэрнасці.***

*У залежнасці ад узросту бегуны пераадольвалі дыстанцыю ад 300 да 2000 метраў. На шляху іх чакала знаёмства з постацямі святых, між іншым, св. с. Фаустыны Кавальскай, св. Яна Паўла II, св. Кінгі, св. бр. Альберта. “Стыль жыцця, які мы прапануем, яднае ў сабе фізічную актыўнасць з духоўнымі каштоўнасцямі, культурныя – з адукацыйнымі”, – адзначылі арганізатары праекта.*

*Акцыя таксама стала праслаўленнем св. Яна Паўла II, які ініцыяваў Сусветныя дні моладзі.*




### *“Асноўнае права чалавека на жыццё і свабоду сумлення”*

***Пад такім дэвізам у Рызе прайшла міжнародная канферэнцыя рухаў pro-life. Падчас сустрэчы абмяркоўвалася пытанне аб сіле малітваў і сакрамантаў, якая замацоўвае дзейнасць на карысць існавання.***

*Рыжская канферэнцыя стала нагодай, каб разгледзець сітуацыю правоў чалавека ў адносінах да пачатку і канца жыцця, а таксама да праблематыкі сумлення ў службе аховы здароўя. Увага звярталася на тое, што аборты ў некаторых краінах з’яўляюцца адной з асноўных прычын смяротнасці, нават калі іх працэнт значна зніжаецца. А, напрыклад, у Латвіі і Эстоніі, дзе на працягу многіх гадоў змагаюцца з адмоўным прыростам насельніцтва, гэта пытанне ажно на ўзроўні выжывання нацыі.*




### *Бяздомныя паедуць на рэкалекцыі ў Рым*

***Амаль 6000 чалавек з усёй Еўропы прымуць удзел у духоўных практыкаваннях, якія папа Францішак правядзе ў сталіцы Італіі 11–13 лістапада.***

*З Польшчы ў Рым вырушыць 250 бяздомных асоб, сярод якіх 35 падапечных кракаўскага Таварыства дапамогі св. Айца Піо. “Мы верым, што Еўрапейскія рэкалекцыі радасці і міласэрнасці дапамогуць удзельнікам зразумець, наколькі каштоўныя яны ў вачах Пана; а іх месца, незалежна ад жыццёвых сцежак, знаходзіцца ў цэнтры Касцёла”, – падкрэсліваюць супрацоўнікі таварыства.*

*Ідэя правядзення такіх рэкалекцый нарадзілася ў французскай супольнасці “Fratello”, якая займаецца арганізацыяй падзей для выключаных асоб.*

***Кінга Красіцкая***

## Бл. Цэліну Бажэнцкую ўшанавалі ў парафіі ў Заневічах

*26 кастрычніка ў касцёле, дзе захоўваюцца рэліквіі манахіні, была цэлебравана ўрачыстая св. Імша.*

Набажэнства ўзначаліў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі. У гаміліі іерарх спаслаўся на словы Святога Айца Бенедыкта XVI, якія той прамовіў падчас беатыфікацыі Цэліны Бажэнцкай у Рыме: "Акрамя мучаніцтва крыві існуе не менш важнае «белае» мучаніцтва, якое напаўняла жыццё бл. Цэліны: жонкі, маці, удавы і манахіні. Гэта маўклівае, але гераічнае сведчанне многіх хрысціян, якія жывуць паводле Евангелля без кампрамісу, выконваючы свае абавязкі і служачы ўбогім".



Цэліна Бажэнцкая нарадзілася ў 1833 годзе ў Антовілі каля Оршы. З дзяцінства прагнула пайсці ў кляштар, аднак бацькі і спаведнік палічылі, што ёй трэба выйсці замуж. Будучы паслухмянай, узяла шлюб з Юзафам Бажэнцкім. Пасля смерці сужэнца разам са сваёй дачкой Ядзвігай склала абяцанні чыстасці, беднасці і паслухмянасці, заснаваўшы Кангрэгацыю Сясцёр Змёртвыхпаўстання Пана нашага Езуса Хрыста.

## Святары Гродзеншчыны падзякавалі за 25 гадоў існавання дыяцэзіі

*Пастырская сустрэча прайшла ў Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне 24 кастрычніка.*

Галоўным пунктам сустрэчы стала св. Імша ў семінарыйнай капліцы. Падчас Эўхарыстыі святары дзякавалі за 25 гадоў існавання Гродзенскай дыяцэзіі і паслугу яе ардынарыя – ксяндза біскупа Аляксандра Кашкевіча, які ўзначаліў св. Імшу.



З гаміліяй да ўдзельнікаў сустрэчы звярнуўся дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі. Іерарх узгадаў пра пачаткі ўзнікнення дыяцэзіі, засяродзіўся над сутнасцю святарскага паклікання і заахвоціў прысутных да яшчэ большай адданасці ў душпастырскай справе. "Нашыя далоні намашчаліся алеем Хрызма – знакам Духа Святога і Яго сілы. Таму рукі святара з'яўляюцца інструментам бараньбы за дабро ў гэтым свеце, прыладай, праз якую людзі адчуваюць Боскі дотык", – падкрэсліў біскуп.

Чарговая пастырская сустрэча адбудзецца ў Гродзенскай Вышэйшай духоўнай семінарыі 21 лістапада.

## Святыя місіі адбыліся ў гродзенскай парафіі Маці Божай Анёльскай

*Серыю набажэнстваў і навук, накіраваных на духоўнае адраджэнне парафіі, правялі айцы рэдэмптарысты Андрэй Ядкоўскі і Валерый Мазюк.*

Для мясцовых вернікаў гэта быў перыяд асаблівай Божай ласкі, таму што апошні раз святыя місіі ў парафіяльнай супольнасці праходзілі больш за 15 гадоў таму. Цягам васьмі дзён дзеці, моладзь, бацькі, пажылыя людзі ўдзельнічалі ў духоўных практыкаваннях. Сужэнцы аднавілі шлюбныя абяцанні, хворыя вернікі былі ўмацаваныя сакрамантам намашчэння. Акрамя ўсяго, праграма прадугледжвала дзень пакаяння.



Напрыканцы місій перад касцёлам быў асвечаны крыж – знак, які пастаянна будзе нагадваць пра важную ў гісторыі парафіі дату.

Трымаючы ў руках прынесеныя з дому распяцці, вернікі выразна сведчылі аб тым, што гаспадаром іх жыцця з'яўляецца Хрыстос. Айцы місіянеры заахвочвалі ўсіх удзельнікаў літургіі крочыць за Крыжом Езуса, сімвалам надзеі і збаўлення. Не баяцца, мець адвагу ў кожным месцы і ў любы час рабіць знак крыжа, даючы сведчанне прыналежнасці да Касцёла.

На заканчэнне вернікі атрымалі блаславенне ад айцоў рэдэмптарыстаў, а таксама поўны адпуст, умовай якога быў удзел у святых місіях, споведзь і малітва ў інтэнцыях папы Францішка.

## Дзіцячы карнавал Усіх Святых прайшоў у Лідзе

*У мерапрыемстве прынялі ўдзел хлопцы і дзяўчынкі з парафіі Узвышэння Святога Крыжа.*

Свята было прысвечана ўрачыстасці Усіх Святых, таму дзецям прапанавалася пераапрануцца ў сваіх любімых святых, а таксама распавесці пра іх прысутным.



Вікарый парафіі кс. Валерый Спірыдон заўважыў, што святыя існуюць насамрэч – "яны жывуць і апекуюцца намі". Святар таксама адзначыў, што маленькім вернікам трэба своечасова тлумачыць сутнасць урачыстасці Усіх Святых і казаць пра небяспеку ўдзелу ў акцыях хэлоўіна, які з кожным годам усё больш рэкламуецца і становіцца чаканым святам для многіх маладых людзей.

## Міністранты распачалі канікулы малітвай

*Першыя дні восеньскага адпачынку хлопцы, якія служаць пры алтары ў гродзенскай парафіі Святога Духа, правялі ў марыйным санктуарыі ў Тракелях.*

Удзельнікі спаткання мелі магчымасць памаліцца каля абраза Маці Божай Тракельскай і перад выстаўленым Найсвяцейшым Сакрамантам. Разам гатавалі вячэру і дэманстравалі свае спартыўныя здольнасці. Быў таксама час на разважанні над Божым словам, супольную малітву і дыскусію на тэму выбару ў хрысціянскім жыцці. Акрамя таго, для хлопцаў была арганізавана пілігрымка, падчас якой яны наведалі старажытны касцёл св. Казіміра ў Ліпнішках, крыпту Умястоўскіх у Суботніках і касцёл св. Мікалая ў Геранёнах.



## Евангелізацыйны курс для шукаючых Бога праходзіць у Навагрудку

*Яго галоўная мэта – дапамагчы праз веды па рэлігіі пазнаваць Бога і спрыяць свядомаму ўдзелу ў жыцці Касцёла.*

Фармат сустрэч запланаваны так, каб людзі ахвотна адкрывалі свае сэрцы, дзяліліся досведам жыцця, веры і малітвы. Спачатку ўдзельнікі ў нефармальнай атмасферы знаёмяцца адзін з адным, а затым адбываецца праца ў групах.



Евангелізацыйны курс праходзіць у парафіі св. Міхала Арханёла кожную суботу ў 19.30. Разлічаны на дарослых людзей, якія шукаюць адказы на хвалюючыя жыццёвыя пытанні. Завершыцца курс у канцы снежня.

## Св. Імша з нагоды ўрачыстасці Усіх Святых адбылася ў гродзенскай катэдры

*Падчас набажэнства, якое ўзначаліў ксёндз біскуп Аляксандр Кашкевіч, вернікі ўспаміналі не толькі тых, хто быў абвешчаны святым або блаславёным, але і невядомых нам спачылых вернікаў, якія знаходзяцца з Богам у небе.*

У гаміліі біскуп Кашкевіч наблізіў сабраным сутнасць урачыстасці: "Мы павінны памятаць, што святыя і блаславёныя, якіх ушаноўваем падчас літургіі, імёны якіх называем падчас літаній і чые выявы бачым на абразах, з'яўляюцца толькі маленькай часткай велізарнай колькасці святых, што прабываюць з Богам у Нябесным Валадарстве. Бо называцца святымі заслугоўваюць усе, хто дасягнуў збаўлення. Сёння мы аддаём пашану кожнаму з іх", – сказаў іерарх.



Ардынарый адзначыў, што ўсе мы пакліканы да збаўлення, і заахвоціў прысутных нястомна імкнуцца да святасці. "Сённяшняя ўрачыстасць – гэта святкаванне таямніцы любові Усемагутнага. Бо вечнае жыццё, якім цешацца святыя ў небе, з'яўляецца дарам Божай міласэрнасці", – падкрэсліў біскуп.

Пасля заканчэння св. Імшы адбылася нешпары за памерлых і жалобная працэсія па касцёле. Урачыстасці папярэднічала набажэнства на гродзенскіх пебернардынскіх могілках, якое ўзначаліў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі. Асаблівым момантам стала ўнясенне рэліквій св. Яна Паўла II у капліцу Усіх Святых.

## АНОНСЫ

### ПРЭЗБІТЭРСКАЕ ПАСВЯЧЭННЕ АДБУДЗЕЦЦА Ў СМАРГОНІ

**12 лістапада ў касцёле св. Міхала Арханёла дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Аляксандр Яшэўскі SDB удзеліць прэзбітэрскае пасвячэнне дыякану Дзянісу Бразінскаму. Пачатак св. Імшы ў 12.00.**

Дыякан паходзіць са Смаргоні. Скончыў навучанне і фармацыю ў Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне. Пасля пасвячэння будзе належаць да ліку святароў Гродзенскай дыяцэзіі. На душпастырскую службу накіраваны на Магілёўшчыну.

### ДНІ СУПОЛЬНАЙ МАЛІТВЫ ПРОЙДУЦЬ У ВІЛЕНСКІМ САНКТУАРЫІ

**Традыцыйна на ўспамін Маці Божай Вастрабрамскай у Вільні збіраюцца вернікі розных нацыянальнасцей. Св. Імша з удзелам беларусаў адбудзецца 19 лістапада ў 15.00 у касцёле св. Тэрэзы** *(побач з капліцай цудатворнага абраза Маці Божай Вастрабрамскай).*

*На супольную малітву запрашаюцца вернікі з усіх дыяцэзій Беларусі.*

### ХОР "CANTATE DOMINO" ВЫСТУПІЦЬ У ГРОДЗЕНСКІМ КАСЦЁЛЕ

**Святочны канцэрт падзякі за 25 гадоў існавання Гродзенскай дыяцэзіі адбудзецца 22 лістапада, ва ўспамін св. Цэцыліі, апякункі касцёльнай музыкі. Капэла выступіць у рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі.**

У 19.00 пачнецца св. Імша, для якой хор падрыхтуе музычнае афармленне. Пасля набажэнства – канцэрт.

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**9 лістапада 1950 г.** – кс. Чэслаў Дабулевіч, *проб. Нача;*
**10 лістапада 1940 г.** – кс. Казімір Лабан, *проб. Цудзенішкі;*
**13 лістапада 1994 г.** – кс. Яцэк Якубчык SAC, *душп. Беняконі;*
**16 лістапада 1953 г.** – кс. Альфонс Чыжэўскі SJ, *проб. Бердаўка;*
**16 лістапада 1999 г.** – кс. Мацей Мацяеўскі CR, *проб. Крамяніца;*
**17 лістапада 1990 г.** – кс. Эдуард Жураўскі, *проб. Кемелішкі;*
**18 лістапада 1975 г.** – кс. Мечыслаў Радзішэўскі, *проб. Новы Двор;*
**19 лістапада 1967 г.** – кс. Уладзіслаў Матуліс, *проб. Солы.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўвалася інтэрнэт-старонка* ***grodnensis.by***




*Хвала Хрысту!*

*Вітаю чытачоў моладзевай рубрыкі “На скрыжаванні”. У сённяшнім нумары мы з Вамі паразважаем пра сілу адзінства, блізкасць перакананняў і такі неабходны кампраміс. Задумаемся, чаму цяжка быць салідарным і дзе шукаць узаемаразумення.*

*Наперад з Богам!*

# Імкнуцца да ўзаемаразумення

**ВЫКАЗВАННЕ З БІБЛІІ: “Няхай кожны чалавек слухае з ахвотай, але не будзе ахвочы да размоў” (Як 1, 19)**

У Біблії ясна падкрэсліваецца, што людзі могуць шмат гаварыць, але не чуць адзін аднаго. Там жа знаходзіцца падказка: неабходна больш слухаць, разважаць і толькі пасля выказвацца. Важна мець шчырае і чулае сэрца. І тады нашмат больш шансаў дасягнуць з бліжнімі ўзаемаразумення, якое заснавана на сардэчнасці.

**ІНТЭНЦЫЯ МЕСЯЦА: каб краіны, якія прымаюць вялікую колькасць імігрантаў і бежанцаў, знайшлі падтрымку ў сваіх намаганнях быць салідарнымі**

Далёка не ўсе краіны адкрытыя на людзей, якія пакінулі родныя мясціны ў пошуках лепшай долі. Многія з асуджэннем ставяцца да тых дзяржаў, што прымаюць бежанцаў і імігрантаў. Згодна з перакананнямі некаторых палітыкаў, “чужародныя масы” негатыўна ўздзейнічаюць на ўклад жыцця і культуру мясцовага насельніцтва. Папа Францішак заклікае ўсіх каталікаў свету маліцца ў бягучым месяцы ў інтэнцыі краін, якія, нягледзячы ні на што, намагаюцца быць салідарнымі.

**ПРАДМЕТ РАЗВАЖАННЯЎ МЕСЯЦА: салідарнасць**

Яна ж узаемасувязь, еднасць, адзінадушша. Быць салідарным – значыцца падзяляць і падтрымліваць нейкія погляды, інтарэсы. Не “глытаць” чыесьці перакананні, трапляючы пад уплыў, але падтрымліваць ідэі, што блізкія сэрцу і падаюцца правільнымі. Або прапаноўваць сваё бачанне і аб’ядноўваць пры ім кола аднадумцаў.

З салідарнасці людзі згуртоўваюцца ў адзінае цэлае, што робіць іх больш моцнымі і ўстойлівымі. Сёння гэта як ніколі важна і патрэбна.

**МЭТА МЕСЯЦА: імкнуцца да ўзаемаразумення**

Узаемаразуменне выражае гатоўнасць чуць і разумець адзін аднаго. Дзякуючы чаму чалавек максімальна набліжаецца да другога. Калі асоба зацікаўлена ў гэтым, яна будзе намагацца знайсці кропкі судакранання, каб праз агульнасць інтарэсаў і пазіцый дасягнуць адзінадушша. Не будзем жа шкадаваць сіл на пошукі тых “ключоў”, якія гарантуюць згоду ў адносінах.

**СПРАВА МЕСЯЦА: пайсці на кампраміс**

Часта дзеля таго, каб дасягнуць вялікай мэты, патрэбна згадзіцца на некаторыя ўступкі. У большасці выпадкаў на кампраміс ідзе чалавек, які зацікаўлены ў захаванні спрыяльнай атмасферы і добрых адносін. Ён забываецца на гордасць і выходзіць насустрач апаненту з павагай да яго поглядаў. Але варта вырашацца на кампраміс разумна, каб другі бок не скарыстаўся з гэтага выключна ў сваіх інтарэсах. Такім чынам, можна бавіць выхадныя з блізкімі, якія адчуваюць недахоп увагі, або маліцца кароткай малітвай, але разам з усёй сям’ёй.

**ПЕСНЯ МЕСЯЦА: “Мне не хопіць слоў”, Ц. Добрая Вестка**

Часам словы выражаюць думкі не так, як хацелася б. А некалі іх увогуле не хапае, каб засведчыць аб тым, што перапаўняе знутры. Выканаўца спявае Богу гімн, у якім прызнаецца, што ягоны недастаткова лексем, каб пра ўсё сказаць, “жыцця не хопіць, каб праспяваць”. Невыпадкова кампазіцыя нешматслоўная – пачуцці “выліваюцца” ў ноты, якія ствараюць у слухача добры, лёгкі настрой. Трапіўшы на такую хвалю, хочацца з удзячнасцю абняць увесь свет.

**КНІГА МЕСЯЦА: “Вайна слоў”, Пол Трын**

Мала хто па-сапраўднаму задумваецца аб тым, якой сілай і ўплывам валодаюць словы. Калісьці яны з’яўляюцца дарам і блаславеннем, а калісьці – тояць у сабе небяспеку. Галоўная ідэя выдання – падкрэсліць значнасць кожнага прамоўленага слова.

Прачытаўшы кнігу, чалавек разумее, чаму так важна спачатку думаць, а потым гаварыць. Вучыцца памятаць пра Бога, калі вядзе размову.

*У мяне ёсць унук Максім. Раскажыце, калі ласка, пра яго святога заступніка. Удзячная чытачка з парафіі св. Казіміра ў Ліпнішках*

**АСОБА МЕСЯЦА: святы Максім**

Нарадзіўся ў канцы IV стагоддзя ў Шаторэдон (Францыя). У маладосці ўступіў у лерынскі кляштар, якім кіраваў св. Ганарат. Калі той быў абраны на Арлеатскую кафедру, Максім стаў яго пераемнікам і другім настаяцелем лерынскага кляштара. З 427 года займаў пасаду абата, а ў 433 годзе быў выбраны біскупам Р’ез. Сакра была ўдзелена св. Ілпарыёнам, вучнем Ганарата. Удзельнічаў у некалькіх правінцыяльных сінодах. У душпастырскай працы клапаціўся пра сістэматычную евангелізацыю дарučаных яго клопату вернікаў.

Памёр каля 460 года. Успамін – 27 лістапада.

*Касцёл таксама ўзгадвае св. Максіма з Павіі (8 студзеня), св. Максіма Ноланскага (7 лютага), св. Максіма з Эўро (25 мая), св. Максіма Турынскага (25 чэрвеня), св. Максіма з Авеі (20 кастрычніка) і многіх іншых святых з такім імем.*

**Да якіх святых звяртацца з асаблівай просьбай аб заступніцтве ў лістападзе?**

*Усе святыя (1 лістапада), св. Елізавета (5 лістапада), св. Эрнэст (7 лістапада), св. Леон (10 лістапада), св. Марцін (11 лістапада), св. Вітольд (12 лістапада), св. Гертруда (16 лістапада), св. Анатоль (20 лістапада), св. Цэцылія (22 лістапада), св. Максім (27 лістапада), св. Андрэй (30 лістапада).*

*Усе заўвагі і пажаданні дасылайце ў рэдакцыю або на электронны адрас аўтара рубрыкі: pokachailo.lina@gmail.com.*

**Ангеліна Пакачайла**




**Як Касцёл ставіцца да крэмацыі?**

*Касцёл аддае перавагу пахаванню цел, хоць і крэмацыю не адмаўляе. Патрабуе захоўвання праху ў святым месцы, забараняючы яго развейванне – чытаем у інструкцыі “Ad resurgendum cum Christo”, якую 25 кастрычніка бягучага года апублікавала ў Ватыкане Кангрэгацыя веравучэння. У дакуменце ўзгадваецца, што ўжо больш за паўстагоддзя Касцёл дазваляе крэмацыю астанкаў пры ўмове, што “гэты выбар не быў прадыктаваны воляй адмаўлення ад хрысціянскіх дагматаў, сектанцкім духам або нянавісцю да каталіцкай рэлігіі і Касцёла” (п. 1).*

*Пахаванне – найбольш адпаведная форма выражэння веры і надзеі ва ўваскрашэнне цела, якая адначасова падкрэслівае яго годнасць. Паводле ватыканскай інструкцыі, “Касцёл не можа дазволіць паставы і абрады, якія прадугледжваюць няправільнае стаўленне адносна смерці, што ўспрымаецца як канчатковае знікненне асобы або яе зліццё з маці-прыродай ці сусветам, як этап у працэсе рэінкарнацыі або канчатковае вызваленне з «турмы» цела” (п. 3). У дакуменце дадаецца, што пахаванне на могілках ці ў іншым святым месцы асабліва адпавядае спачуванню “паколькі такім чынам аказваецца большая пашана памерлым” (п. 4). Касцёл прызнае гэта ўчынкам міласэрнасці. Такі спосаб спрыяе памяці і малітве аб памерлых з боку сям’і і ўсёй хрысціянскай супольнасці.*

*Калі абрана крэмацыя, “прах памерлага павінен быць пахаваны ў святым месцы: гэта значыць, на могілках, ці, калі трэба, у храме або на тэрыторыі, адведзенай для гэтай мэты адпаведнымі касцёльнымі ўладамі” (п. 5). Дакумент Кангрэгацыі веравучэння забараняе захоўваць прах у месцы жыхарства. Толькі ў выпадку выключных абставін ардынарый, пракансультаваўшыся з канферэнцыяй епіскапату, можа дазволіць такі варыянт. “Прах, аднак, не можа быць размеркаваны паміж рознымі сямейнымі асяродкамі, і неабходна забяспечыць яму павагу і адпаведныя ўмовы захавання” (п. 6).*

*У інструкцыі ўказваецца, што “нельга дазваляць развейваць прах у паветры, на сушы або ў вадзе, або любым іншым чынам, ці таксама выкарыстоўваць крэміраваны прах для вырабу сувеніраў, біжутэрыі ці іншых прадметаў” (п. 7). Падкрэсліваецца, што “калі памерлы неадназова патрабаваў крэмацыі і рассейвання свайго праху ў прыродзе па прычынах, якія супярэчаць хрысціянскай веры, трэба, згодна з Правам, адмовіць у правядзенні такога пахавання” (п. 8).*

**Кс. Юрый Марціновіч**




# Удзельнікі Колаў Жывога Ружанца Гродзенскай дыяцэзіі сустрэліся ў Капцёўцы

Сустрэчу арганізаваў кс. Міхал Ластоўскі, дыяцэзіяльны мадэратар супольнасці Жывога Ружанца і кусташ санктуарыя Маці Божай Яснагорскай, Цярпліва Слухаючай, на Узгорку надзеі. У яе межах члены ружанцовага малітоўнага руху прынялі ўдзел у св. Імшы, а таксама памаліліся ў інтэнцыі сем’яў дыяцэзіі, просячы, каб кожная сям’я была хатнім Касцёлам і выхоўвала ў веры наступныя пакаленні.









# ЧАМУЧКІ

## Дзіцячая рубрыка

**Прывітанне, Маленькі Сябар!**
**Рады прапанаваць Табе новую рубрыку для дзяцей пад назвай "Чамучкі".**

Кожны дзень Ты апынаешся ў нечаканых абставінах, сустракаешся з незнаёмымі людзьмі, бачыш яшчэ шмат чаго невядома. Будзь гатовы пашыраць свае гарызонты. Спытаешся: як? Многія навукоўцы рабілі адкрыцці, таму што не баяліся задаваць нечаканыя і цяжкія пытанні. Так і Ты, па іх прыкладзе, адважвайся пытацца пра незразумелыя рэчы і ўбачыш, як неўзабаве адкрыеш для сябе шмат чаго цікавага.

## Чаму людзі паміраюць, а не жывуць вечна?

Паміраюць не толькі людзі. Свет уладкаваны так, што ўсё калі-небудзь знікае: жывёлы, расліны, такія нябесныя целы, як зоркі. У канцы свайго шляху яны перастаюць існаваць, выбухаючы або згасаючы.

Хрысціяне вераць, што ў людзей пасля смерці пачынаецца вечнае жыццё. І калі яны робяць дабро і жывуць сумленна, то пасля зямной вандроўкі іх душа трапляе на нябёсы, дзе не бывае ні гора, ні пакут. Такое жыццё называюць вечным шчасцем.

А зараз уяві на хвілінку, што раптам Табе падарылі несмяротнасць. І што тады будзеш мець 100, 200, 500 і нават больш гадоў. Ці не захочаш Ты сталець, расці? У адваротным выпадку можна назаўжды застацца сямігадовым або дзесяцігадовым дзіцём, вучыцца ў адным і тым жа класе, праходзіць адну і тую ж праграму. Напэўна, гэтага зусім не хочацца. Таму Бог і зладзіў усё самым мудрым чынам.

Калі-небудзь Ты таксама станеш дарослым, а потым – пажылым. Можа здацца дзіўным, але ў чалавека бывае не менш задавальнення і ў сталым узросце, калі ён можа перадаваць іншым людзям свае веды і жыццёвы вопыт. Стараецца дапамагчы ўнукам, радуецца іх поспехам. А набліжэнне смерці нашмат лягчэй сустракаць тым, хто сумленна жыве і працуе, тым, хто верыць у вечнае жыццё.





### Заданне:

**На працягу месяца лістапада разам з бацькамі маліцца за памерлых са сваёй сям'і.**

**Чакаем Тваіх "чаму", якія можаш дасылаць на адрас рэдакцыі.**

На пытанні заўсёды
гатовыя адказаць
с. Веранiка Блізнюк FMA,
салезіянскія аніматары
Ганна Семак і Веранiка Рогач
са Смаргоні.

*Пры падрыхтоўцы рубрыкі выкарыстаны ўрыўкі з кнігі Ігара і Андрэя Баранавых "Тата, адкажы мне, чаму…"*

# Ад шчырага сэрца

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Безляповічу**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем душэўнага супакою, радасці, нястомных сіл, моцнага здароўя, шчасця, паспяховай рэалізацыі ўсіх планаў і добразычлівых людзей побач. Дзякуем Вам за ахвярную працу ў святарскім служэнні і абвяшчэнне Евангелля. Няхай Бог благаславіць кожны момант жыцця, Марыя адорвае сваёй ласкай і апекай, а Анёл-ахоўнік абараняе ад усякага зла.

*З малітвай, апостальства "Маргарытка" з парафіі св. Францішка Ксаверыя ў Гродне*

**Дарагому Ксяндзу Андрэю Лішко**

з нагоды Дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем Божага благаслаўлення на кожны дзень жыцця і душпастырскай паслугі, нястомнасці ў абвяшчэнні Божага Валадарства словам і жыццёвым прыкладам, штодзённай радасці і душэўнага супакою. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя кожны дзень ахінае Цябе сваёй мацярынскай апекай, а Святы Дух няспынна спасылае свае дары.

*Цёця Марыя разам з сям'ёй, Гродна*

**Паважанаму Ксяндзу Дзмітрыю Несцеру**

з нагоды Імянін і Дня нараджэння жадаем добрага здароўя. Няхай Езус заўсёды благаслаўляе ў душпастырскім служэнні і шчодра ўзнагароджвае за Вашу працу. Няхай кожны дзень будзе напоўнены сонцам, радасцю і шчасцем, а Маці Божая нястомна ахінае плашчом мацярынскай апекі і любові.

*Вернікі з капліцы Сураж*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Леону Ладышу**

з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем мноства ласкаў ад усемагутнага Бога, няспыннай апекі Маці Божай і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай здароўе заўсёды спрыяе, радасць і моц ніколі не пакідаюць, а побач будуць добразычлівыя людзі. Няхай Езус Хрыстус падтрымлівае ў кожнай справе, а святы Заступнік заўсёды чувае над Вамі.

*З малітвай, вернікі з парафіі Святой Тройцы ў Войстаме*

**Паважанаму Ксяндзу Вячаславу Матукевічу**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, шчодрых Божых ласкаў, усмешкі кожны дзень і дароў Святога Духа. Няхай Маці Божая заўсёды мае Вас у сваёй апецы, Пан Бог вядзе праз жыццё, а Святы Дух асвячае святарскі шлях.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душа з в. Дуды*

**Паважанаму Ксяндзу Леанарду Станкоўскаму**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, поспехаў у душпастырскай працы, душэўнага супакою і добразычлівых людзей побач. Няхай Езус Хрыстус адорвае Вас усімі ласкамі, а Маці Божая ахінае мацярынскай пяшчотай. Шчасці Божа!

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з в. Солы*

**Паважанаму Айцу Вітольду Жэльветра**

з нагоды Імянін складаем букет сардэчных пажаданняў. Няхай Ваша здароўе з кожным днём толькі ўзмацняецца, духоўны запал мацнее, сэрца яшчэ больш адкрываецца на Бога і людзей, а душа цешыцца плёнам працы. Няхай Найсвяцейшая Маці і святы Заступнік штодзённа Вамі апекуюцца, а Дух Святы стала спасылае свае каштоўныя дары.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з в. Ліпнішкі*

**Паважанаму Айцу Вітольду Пяцельчыцу**

з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем усяго самага найлепшага: моцнага здароўя, нястомных сіл і цярплівасці ў душпастырскай працы, добразычлівых людзей навокал і супакою ў душы. Няхай падтрымка святога Заступніка будзе дапамогай нават у самыя складаныя жыццёвыя моманты. Шчасці Божа!

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам са Шчучына*

**Паважанаму Ксяндзу Вітольду Чургану**

з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў на кожны дзень жыцця і святарскай паслугі, штодзённай апекі Маці Божай і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай кожны Ваш дзень будзе шчаслівы і благаслаўлёны, праца прыносіць радасць і задавальненне, а супакой і надзея напаўняюць сэрца.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Юрацішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Прэлату Вітольду Лазавіцкаму**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем шматлікіх Божых ласкаў на кожны дзень жыцця, нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці і святога Заступніка, а таксама шчодрых дароў Святога Духа. Няхай усё задуманае ажыццяўляецца, а радасць і надзея ніколі Вас не пакідаюць. Шчасці Божа!

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Радуні*

**Паважанаму Ксяндзу Прэлату Вітольду Лазавіцкаму**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, сіл і цярплівасці ў душпастырскай працы, душэўнага супакою і аптымізму на кожны дзень. Няхай Ваша праца на ніве Пана прыносіць як мага больш шчодры плён, а Божае благаслаўленне заўсёды будзе на Вас. Шчасці Божа!

*Апостальства "Маргарытка", Францішканскі ордэн свецкіх, Ружанцовыя колы з парафіі Тэалін*

**Шаноўнай Спадарыні Генэвэфе Выдры**

з нагоды 85-годдзя ад усяго сэрца жадаем рэалізацыі ўсіх высакародных планаў і намераў, моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, сіл і стойкасці на кожны дзень, а таксама ўсіх Божых ласкаў, такіх неабходных кожнаму чалавеку.

*Францішканскі ордэн свецкіх, Ружанцовыя колы з парафіі Тэалін*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Вітольду Лазавіцкаму**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці, мноства Божых ласкаў, добрых і шчырых людзей побач, гатовых заўсёды прыйсці на дапамогу, а таксама шмат сіл і стойкасці ў душпастырскай паслузе. Няхай Маці Божая апекуецца Вамі ў кожную хвіліну жыцця, а добры Бог адорвае айцоўскім благаслаўленнем, каб надалей будаваць Божае Валадарства на зямлі. Няхай святы Заступнік штодзённа Вамі апекуецца.

*Ружанцовыя колы і ўдзячныя парафіяне з Радуні*

**Паважаны Ксёндз Мар'ян Хаменя!**

З нагоды Дня нараджэння ў сваіх малітвах мы просім міласэрнага Бога, каб узнагародзіў Вас моцным здароўем і сілай для шчырай і адданай святарскай паслугі. Няхай Маці Божая ахінае плашчом ласкі і дабрыні, а Святы Дух асвячае шлях, па якім мы ідзём разам з Вамі. Няхай святы Заступнік і ўсе святыя будуць побач кожны дзень. Дзякуем за добрае сэрца, зычлівасць і цярплівасць да нас. Жадаем шчасця і радасных хвілін жыцця. 100 гадоў!

*З удзячнасцю, парафіяне з Шылавічаў*

**Паважанаму Айцу Пробашчу Дзмітрыю Лабкову**

з нагоды Дня нараджэння і Імянін перасылаем самыя сардэчныя пажаданні добрага здароўя, шчодрых дароў Святога Духа і Божых ласкаў, нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі на кожны дзень. Няхай радасць, любоў, супакой і дабрыня заўсёды госцяць у Вашым сэрцы. Дзякуем за адданую працу, мудрыя словы і бацькоўскі клопат аб парафіянах.

*Францішканскі ордэн свецкіх з парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля, Гродна*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Вітольду Чургану**

ў Дзень імянін сардэчна жадаем моцнага здароўя, радасці, шчасця, шчодрых Божых ласкаў, апекі Найсвяцейшай Маці. Няхай святы Заступнік у сваёй любові заўсёды чувае над Вамі і будзе сябрам. Дары Святога Духа няхай асвячаюць святарскі шлях, а Анёл-ахоўнік абараняе ў кожную хвіліну жыцця. Дзякуем за абвяшчэнне Божага слова і павучальныя казанні. Шчасці Божа!

*З малітвай і ўдзячнасцю, парафіяне з Юрацішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму**

з нагоды 15-й гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем добрага здароўя, душэўнага супакою, стойкасці на святарскім шляху і толькі зычлівых людзей побач. Няхай добры Бог Вас благаслаўляе, а Маці Божая Яснагорская апекуецца і дадае запалу ў працы. Дзякуем за Вашу сціпласць, пакорнасць і за ўсё дабро. Няхай Бог Вас узнагародзіць. Доўгіх і шчаслівых гадоў душпастырскай паслугі!

*Парафіяне з в. Каменка*

**Паважанаму Ксяндзу Дзмітрыю Несцеру**

з нагоды Дня нараджэння жадаем Божага благаслаўлення, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, супакою ў сэрцы, моцнага здароўя, мноства сіл на доўгія гады, радасці на кожны дзень. Дзякуем за Божае слова падчас кожнай св. Імшы. Няхай Вашы шчырыя малітвы і павучальныя казанні надалей пранікаюць у людскія душы. Няхай Езус заўсёды будзе Вашым Сябрам, Святы Дух асвячае святарскі шлях і дапамагае ў выкананні абавязкаў. Дзякуем за клопат пра касцёл і парафію.

*Касцёльны камітэт і парафіяне з Гераненаў*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Вітольду Лазавіцкаму**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні моцнага здароўя на доўгія гады святарскай паслугі, шчырых і верных людзей побач, усіх Божых ласкаў і нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі на шляху служэння Богу і людзям. Няхай Вашае сэрца і розум ніколі не стамляюцца абвяшчаць Божае слова, а добры Бог узнагародзіць за нястомную працу на карысць нашай парафіі.

*З малітвай і павагай, працаўнікі Радунскай агароднінасушыльнай фабрыкі*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Радзевічу**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем самыя сардэчныя пажаданні, спалучаныя з малітвай: апекі Найсвяцейшай Маці, шчодрых Божых ласкаў, дароў Святога Духа, шмат сіл і здароўя ў рэалізацыі Божых планаў, зычлівых людзей на святарскім шляху. Няхай кожны дзень паслугі будзе напоўнены радасцю і супакоем, а праца на карысць Богу і людзям прыносіць шчодры плён.

*З малітвай, члены Апостальства дапамогі чысцовым душам і верныя парафіяне з Радуні*

**Паважанаму Айцу Пробашчу Вітольду Жэльветра**

з нагоды Імянін жадаем усяго самага найлепшага. Няхай Пан Бог заўсёды адорвае Вас сваімі ласкамі, Маці Божая ахінае мацярынскай апекай і любоўю, Дух Святы спасылае шчодрыя дары, а святы Заступнік напаўняе супакоем і радасцю. Жадаем таксама моцнага здароўя, непахіснай надзеі, нязгаснай веры і нястомнасці ў душпастырскай працы.

*Удзячныя парафіяне з Ліпнішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Вітольду Чургану**

з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем моцнага здароўя, шчасця, радасці, добразычлівых людзей на святарскім шляху, шмат Божых ласкаў і апекі Найсвяцейшай Панны Марыі.

*Ружанцовае кола НПМ Тракельскай, Юрацішкі*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Кузьмічу**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні, спалучаныя з гарачай малітвай. Жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, Божага благаслаўлення, апекі Найсвяцейшай Маці. Няхай Святы Дух асвячае святарскі шлях, а побач заўсёды будуць добразычлівыя людзі. Дзякуем за Божае слова, мудрыя павучальныя казанні, лагодную ўсмешку, цудоўны голас і адкрытае на людзей сэрца. Мы ўдзячны Пану Богу за нашу капліцу і за Вас.

*Вернікі з в. Таневічы,парафія Новы Двор*

**Паважанаму Ксяндзу Яўгену Учкуронісу, яго маме і ўсім родным**

у сувязі са смерцю бацькі перасылаем словы шчырага жалю і спачування. Мы яднаемся з Вамі ў малітве за супакой яго душы. Няхай Пан прыме яго ў сваё Валадарства.

*Парафіяне з в. Старое Сяло, в. Дзярэчын і касцёла ў Луконіцы*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл. **152/ 756438**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com.; http://www.slowo.grodnensis.by;**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 5562; тыраж 5240; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная